№ 8 [11] ЖНІВЕНЬ 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ




Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 300 фр.

# Сълядамі гісторыі

Сучасныя філязофы кажуць, што найлепш вывучаць гісторыю кожнага народу ў дамавінах яго дзядоў і агулам ягоных сыноў і дачок. — Там бо ў кожнай дамавіне магчыма сёньня знайходзіцца толькі абгніўшы касьцяк, але кожны з гэтых касьцякоў належыць або да гэроя, або да слабадуха; або да вернага сына, або да здрадніка; або да працавітага селяніна, або да няроба. Гістарычны шлях беларускага народу ад двох стагодзьдзяў у бальшыні значыцца бязіменнымі магіламі так шэрых работнікаў, як і змагароў. Адчыніўшы аграмадную бальшыню магілаў нашых продкаў і дзядоў можна знайсьці ў іх толькі спарахнеўшыя косьці бязіменных людзей, але яны тымбольш слаўныя і дарагія для нас, бо ніхто іншы як яны, тыя бязіменныя продкі, былі змагарамі супроць шматлікіх і пераважаючых сілаў і не зьнявервальіся ў гэтай барацьбе. Ані вяковая няволі, ані жудасныя ўмовы жыцьця не зламалі іх непахіснае волі. «Перажылі канстытуцыю, перажывём і гэтую долю куцую» — паўтаралі яны, і з упэўненасьцю глядзелі ў лепшае заўтра.



Нельга не згадзіцца з думкаю, што мы мелі-б большае права славіць нашых продкаў, каб яны ня ўтрацілі незалежнасьці, але на шчасьце тыя, якія спрычыніліся да ўпадку народу ў першую чаргу загінулі самі, яны расплыліся бесьследна ў чужым моры, аднак народныя масы за імі не пайшлі і ні ў чым ня зрадзілі сваіх векавых традыцыяў, не прадалі сваіх народных скарбаў і свае душы. Яны пільна сьцераглі ўсё тое, што лягло ў аснову нашага адраджэньня і за гэта ім такжа належыцца вялікая слава. Трэба было мець запраўды нязломную волю, каб перанесьці ўсё тое, што выпала на долю нашых продкаў. З поўным супакоем, але адначасна з нявымоўнай зацятась-

цю і старыя і малыя, і мужчыны і дзеці бралі той цяжкі жыцьцёвы крыж на свае плечы і нясьлі яго з шчыраю вераю ў лепшую будучыню.

Калі-б нехта хацеў знайсьці адпаведны абраэок для намаляваньня гэтага шляху белрускага народу, дык здаецца ня знойдзе лепшага, як той жывы абраз баларускае жанчыны-маці летам. Іңшыя народы для паказаньня тыпу сваей маці малююць прыгожую жанчыну, як яна спакойна з любасьцю бавіцца сваім малым; — беларуская маці стварыла сабе іншы помнік. Хто хоць аднойчы быў на Беларусі летам, таму назаўсёды астанецца глыбока ў памяці абраз беларускае жанчыны-маці, як яна раньнею раніцаю з сярпом праз плячо, хатылём за плячыма, адным дзецям ля грудзей а другім у руцэ йдзе на поле, каб позным вечарам спрацаваная, засмагшая і зьнямажаня ўзяць зноў на рукі сваю ношу, перакінуць серп праз плячо і вяртаючыся дамоў яшчэ мець ахвоту пяяць, найчасьцей сумна, але ўсё-ж пяяць.

Чароўныя гукі жніўнае песьні:

Да баліць мая сярэдзінка...

пераліваліся голасна над нівай і плылі ў даль, а з імі выплываў той боль і гартаваліся сілы да вытрываласьці, да бадзёрага нясёньня свайго цяжкога жыцьцёвага крыжу.

Адзін з чужынцаў, прыглядаючыся да жыцьця беларускае жанчыны ня вытрымаў, каб не заўважыць:

— І вам не надакучыць зносіць заўсёды гэткія цяжкія клопаты?

— Так трэба жыць, — адказала коратка беларуска.

І ў гэтым адказе было ўсё: і глыбокая вера, і ўпэўненасьць у свае сілы, і зразуменьне патрэбы ахвярнае працы.

Хоць і цяжка, аднак чыстасумленна працуючы, здабывалі нашы продкі той нутраны супакой, які для шмат каго ёсьць загадковым. Перадусім сьведамасьць сумленна выкананага абавязку давала ім моц духа, а ў канцы жыцьця дазваляла спакойна легчы ў дамавіну, каб потым так-жа спакойна стаць перад абліччам міласэрнага і справядлівага Судзьдзі. Ня будзе грахом верыць, што ня шмат з іх заслужыць на кару. Ня шматбо ёсьць магілаў гэтых шэрых масаў у якіх косткі заслугоўваюць на ганьбу, бо бальшыня тых, «што сабачым мясам была паабрастаўшы» трымалася остарань ад гэтых масаў.

На долю нам, беларускім эмігрантам выпала іншае заданьне й іншыя абавязкі. Але ці мы годныя насьледнікі нашых продкаў у сумленным выконваньні сваіх абавязкаў? Ставім гэтае пытаньне, каб глянуць праўдзе ў вочы хоць гэта і цяжка, і можа нават шмат каму няпрыемна. Аднак заўсёды лепш раней даведацца нават аб найстрашнейшай праўдзе і пастарацца знайсьці на яе раду, чым бяспомачна шкадаваць пачасе. Тымбольш гэта патрэбна, што мы хочам, ці ня хочам, творым на эміграцыі адну сям'ю і кожны дрэнны ўчынак аднаго з сямейнікаў лажыцца плямаю на ўсіх; значыць і на тых, што аб гэтым ведаюць і на тых, што аб гэтым і чуць ня хочуць.

Ня нашаю справаю — рахаваць, колькі ёсьць такіх, што забыўшыся аб усім кінуліся ў вір чужацкіх інтрыгаў ,або апыніліся на дне ўпадку, ці п'янства — заданьнем кожнага сьведамага беларуса спаткаўшы гэткага суродзіча, пастарацца дапамагчы яму зьвярнуць з блуднага шляху. Калі аднак усе стараньні і дапамога астануцца бескарыснымі, дык не астанецца нічога іншага, як зрабіць згодна з радаю Хрыста: «Калі-ж і грамады (Царквы) не паслухаецца, то няхай будзе табе, як паганін і мытнік» (Мат. 18, 17).

Аднак гэта толькі частковая рада і ніякі лек у нашым сучасным палажэньні, бо і бяз гэтага кожны бачыць шматлікія правіны ў кожнага іншага, толькі ў сябе іх пабачыць *ня хоча; дзеляцца* і падзяляюцца штодня на новыя групы і заўзята паглыбляюць ірвы падзелу нават там, дзе іх не павінна быць. Таму найважнейшым заданьнем ёсьць, уважліва прыглянуцца да сябе самога, бо кожны ў першу чаргу адказвае сам за сябе. Сваю бязьдзейнасьць, або шкодную дзейнасьць нельга апраўдваць падобнаю дзейнасьцю іншых, бо ў кожнага з нас ёсьць сваё сумленьне і асабістая адказнасьць. Нават найбольш ціхія, найбольш нязнаныя і сьціплыя—мы ўсе складаем сваю частку ў нашу гісторыю. Мы ўсе ёсьць дзецьмі аднаго народу і аднаго Бога. Ня толькі для сябе, але для Бога і для народу мы жывём і для Бога і народу некалі ляжам у дамавіну. З якім сумленьнем туды ляжам? І калі некалі нехта захоча глянуць туды у магілу кожнага з нас, у маю магілу — каго там знойдзе? Калісь нашы наступнікі не забудуцца судзіць нас і грамадна і паадзіночна; ці не засаромеемся тады перад нашымі продкамі, якія ў цяжэйшых абставінах без нараканьня выконвалі свае абавязкі?

Хочам мы ці ня хочам, але не абмінуць так-жа нікому суду Божага, магчыма нават хучтэй чым мы спадзяёмся давядзецца нам стаць перад абліччам Усявышняга; з якім сумленьнем там покажамся?

Варта аб гэтым часьцей падумаць пакуль ёсьць час.

Гэтыя горкія радкі падыктавалі тыя эміграцкія *настроі*, якія адчуваюцца шмат дзе і выяўляюцца ў шуканьні асабістых выгодаў зусім адкінуўшы на бок грамадзкую справу.

Людзі выразна бачаць, што варожыя сілы рыхтуюць небясьпеку для кожнага паасобна і для ўсіх агулам, але замест гуртавацца ў рады змагароў, туляюцца па чужым завугольлю і гэтым толькі падбадзёрваюць іх да пагубнае дзейнасьці. Ад злое долі нельга схавацца ў ніякім закутку сьвету, адзіная рада гэта не ўцякаючы ад свайго крыжа, ўзяць яго на свае плечы, ды йсьці да пераможнага канца.

**П. Самавец.**



# Духовасьць душы

### ШТО ТАКОЕ ДУХ?

Аб тым, што ў чалавеку, акрамя цела, ёсьць яшчэ Нешта, мала хто парэчыць, але ўся цяжкасьць і вага пытаньня вырынае тады, калі кажам, што гэнае Нешта — гэта духовая душа. Што гэнае Нешта розьніцца ад цела, так-жа самазразумела, але мы кажам, што душа істотна розьніцца ад цела, бо цела збудаванае з матэрыі, а душа з нейкае такое субстанцыі, што не падлягае ніякім даступным нам досьледам, тымнямейш яна такая-ж канкрэтная, як нашы думкі, як нашы паняцьці. Хоць кожны з нас мае духовую душу, аднак цяжка нам уявіць самую духовасьць, бо мы ў штодзенным дзеяньні вельмі зжыліся з матэрыяю. Для выясьненьня можна толькі сказаць, што дух гэта найпрасьцейшая, зусім нязложаная субстанцыя, ня маючая ніякіх матэрыяльных азнакаў.

Для лягчэйшага зразуменьня, што такое дух затрымаймася хвіліну над нашаю думкаю. — Яна ня зьвязаная ні з мейсцам, ні з часам, ні з прасторам; зусім добра можам думаць аб вакольных здарэньнях і аб тым, што адбываецца на зорах; аб тым, што дзеецца цяпер і аб тым, што было сотні гадоў назад. Ані думку можна зважыць, ані яе памераць, ані панюхаць, ані пасмакаваць, ані яе пабачыць, бо няма думкі зялёнае, ці жоўтае. Таму і дасьледаваць душу, так як дасьледуюць матэрыю ёсьць недарэчнасьцю. Тымнямейш з лёгкае рукі фр. лекара Бруссэ часта раней можна было пачуць яго сказ: «Я ніколі не знайшоў душы на вастрыі майго скальпеля». Гэта бесьпярэчная праўда. Але калі аднойчы на бязбожніцкім мітынгу адзін з прапагандыстых заявіў, што лекары падчас вівісэкцыі перашукалі ўсё цела і душы не знайшлі, дык адзін з прысутных там навуковых працаўнікоў заявіў: «Я быў на сэкцыі мазгоў тав. Леніна; найслаўнейшыя прафэсары перашукалі ўсе мазгі і розуму там не знайшлі». Гэта яшчэ большая праўда, бо так розум, як і яго вытвары: паняцьці, суды, ідэі — ня маюць ніякае матэрыяльнасьці, дык і знайсьці іх скальпелям нельга, падобна як і самае душы.

Шмат менш недарэчным выглядала-б стараньне праткнуць голкаю сонца, чым скальпелем, або нейкім іншым нажом знайсьці душу.

Бо ці трэба яшчэ гаварыць аб тым, што мазгі матэрыяльныя і яны заўсёды астаюцца ў галаве, а думкі, якія вытварае душа з помачу гэтых-жа мазгоў, то паўстаюць, то зьнікаюць, так што іх часта нават трудна, як то кажуць, злавіць.

### Думаньне і мова.

Ды й ці агулам патрэбна шукаць скальпелям, або нейкім іншым долатам душы, калі яна праяўляецца сваімі сіламі: розумам і вольнаю воляю так ясна на вонках, што калі іх нехта ня хоча бачыць, дык хіба толькі той, хто гледзячы на сонца здаровымі вачыма, сьвету ня бачыць.

Разумная істота можа думаць і сваю думку на вонках выказвае моваю, таму з усіх сатварэньняў на зямлі толькі чалавек можа гаварыць, а іншыя жывёлы, хоць і маюць зусім добра прыстасаваныя да мовы галасавыя струны, вусны, язык, аднак не гавораць, — бо ня думаюць, бо ня маюць аб чым гаварыць, бо ня маюць разумнае і духовае душы. Хто ня чуў папугаяў, як яны балбочуць людзкія словы? Шпакі, дразды і вароны так-жа могуць вымаўляць некаторыя людзкія словы, але як ні дзіўна, гаварыць, як гаворыць чалавек, яны ня могуць, бо ня маюць аб чым, бо ня думаюць. Толькі разумная і духовая душа вытварае думку, а думка мову.

Усе стараньні знайсьці нейкую мову малпаў, скончыліся нічым. Некаторыя дасьледнікі былі зарэгістравалі аж 70 малпячых «слоў», але самыя-ж іх адкрыўцы ўканцы мусілі прызнаць іх за звычайныя гукі змысловае натуры для выказваньня: болю, задаваленьня, трывогі і т. п., якія ня маюць нічога супольнага з членаразьдельнаю моваю людзей, а тым самым і з думаньнем.

### Агульныя паняцьці.

Міма таго, што нашы думкі і нашы ідэі нематэрыяльныя ў іх рэальнасьці ніхто ня сумняецца. Бесьпярэчна так-жа што яны астаюцца негдзе ў нас, але так-жа бесьпярэчна, што яны ня маюць ніякае матэрыяльнасьці. Варта толькі прыглянуцца да першага лепшага агульнага паняцьця, каб у гэтым пераканацца. Прыкладна возьмем найпрасьцейшае і найагульнейшае паняцьце, дрэва, — яно ня кажа ні аб нейкай азначанай велічыні, ні колеру, ні ліку гальля ці лісьця, нават формы

азначанае ня мае — аднак гэтае разумовае паняцьце існуе і мы ім вельмі добра і часта карыстаемся. У навуцы ёсьць цэлая безьліч гэткіх разумовых паняцьцяў, а такая сьціслая навука, як матэматыка, дык апіраецца амаль выключна на абстрактна-разумовых паняцьцях, пачынаючы ад матэматычнага пункту, а канчаючы на бесканечнасьці. Падобна фізыка і астраномія бяз гэткіх паняцьцяў ня былі-б навукамі, хоць гэтых паняцьцяў ані скальпелем не абмацаеш, ані ў мікраскоп на іх не паглянеш, зусім так, як і на самую нашу душу.

### Сьведамасьць.

Ня толькі нашы думкі, але самая сьведамасьць, самае нашае «я» пазбаўлена ўсякае матэрыяльнасьці. Найлепш гэта відаць з таго агульна ведамага факту, што нашае цела зьмяняецца штодня так, што праз якіх 7, а найбольш 8 гадоў не астаецца ніводнае часткі ні мяса, ні костак, ні мазгоў, якія-б не замяніліся, але не зважаючы на гэта кожны з нас заўсёды гаворыць Я і ў дзяцінстве, і ў юнацтве, і ў старасьці — дык што-ж асталося ў нашай сьведамасьці, калі за гэты час некалькі разоў мусіла зьмяніцца матэрыя нашага цела? Былі галасы некаторых матэрыялістаў, што адна каморачка, гінучы перадае свае ўражаньні іншай, але калі пабачылі, што з гэткае дагадкі выходзіла-б, што пасобныя каморачкі мусілі-б быць разумнейшыя, як увесь чалавек, пакінулі гэткую думку. Шукаючы адказу ў дыялектычным матэрыялізьме, некаторыя пробавалі адгаворвацца пустымі словамі, што сьведамасьць ёсьць нейкім вытварам энэргіі, але і на гэтае пустое гавораньне самі-ж матэрыялісты ў 1928 г. на зьезьдзе натуралістых у Ленінградзе з вуснаў Вэрнацкага мусілі пачуць; што «сьведамасьць і думка ня могуць быць зьведзены да энэргіі, ані да матэрыі». Ды яшчэ раней матэрыяліст Лянгэ ў сваёй «Гісторыі матэрыялізму» наткнуўся на гэтую цяжкасьць. Ён так-жа знайшоў цэлы сьцяг пытаньняў без адказу: «Дзе ёсьць мейсца адчуваньня, калі прыймаем атамы? Ці яно ў сувязі атамаў? Але тады яно дзесьці ў абстрактнасьці, гэта значыць аб'ектыўна нідзе. Ці яно ў руху? Але гэта было-б тое самае. Можна толькі прыняць атам, які рухаецца, як мейсца ўспрыйманьня адчуваньняў. Але як тады адчуваньні складаюцца разам ў адну сьведамасьць? Ды дзе знайходзіцца гэтая апошняя? Ці ў адным адзіным атаме, ці зноў у абстракцыі, або зусім у парожным прасторы, які ў сваю чаргу мусіў-бы быць не парожны, але напоўнены нейкаю нематэрыяльнаю субстанцыяю...»

Адгэтуль ясны высновак, што нашае «Я» — гэта нешта зусім рознае ад нашага цела і нематэрыяльнае, бо ў целе мы яго ня можам нідзе зьвязаць з якім небудзь органам.

Да гэтага самага выснаўку вядзе нас застанова над нашымі ўспамінамі, якія ня могуць ляжаць у атамах, што заўсёды зьмяняюцца. Магчыма хіба дапусьціць, што яны ляжаць у адносінах складовых частак, бо ўсяго гэтыя адносіны трывалыя. Але што гэта такое, гэтыя думаючыя і ўспамінаючыя аб сабе адносіны? Гэта толькі гаворка закрываючая незнаньне матэрыялістаў.

У целе чалавека ёсьць больш трох мільярдаў каморачак, а сьведамасьць толькі адна. Хоць яна знайходзіцца ў целе, але рэжучы цела на кавалкі, сьведамасьці зусім не закранаем. Чалавек з пабразаванымі рукамі й нагамі, ані на валасок ня мае абрэзанае сьведамасьці, і гэта найясьней паказвае, што сьведамасьць ёсьць нечым зусім розным ад нашага цела.

### Непадзельнасьць «Я».

Аснаўная азнака духа ёсьць яго непадзельнасьць.Гэтую азнаку мы знайходзім у нашай сьведамасьці й думках. Цела лёгка можна падзяліць на якія хочаш часткі, а сьведамасьць ніяк. Ужо філязоф Дэкарт казаў: «Я не магу ўявіць нейкае палавіны маіх магчымасьцяў: адчуваць, хацець, цяміць... бо няма частак у маім духу, але ўвесь мой дух адчувае, увесь хоча, увесь разважае... Мой дух, што думае, ёсьць абсалютна адным суцэльным і непадзельным. Калі ў нашым целе зьявіцца верад ці нараст, які нам далягае, дык яго можна выразаць, пазбыцца, але калі ў нашай памяці, ці ў сумленьні зьвіцца нешта, што нас мучыць, дык нельга яго ані выразаць, ані вырваць. Колькі марокі прыносяць нам няпрыемныя ўспаміны, але выкінуць іх з памяці няма сілы, бо наша памяць належыць да субстанцыяў нематэрыяльных і непадзельных — яна духовая».

## ПАХОДЖАНЬНЕ ДУШЫ.

Адкуль-жа бярэцца духовая душа ў чалавеку? Ці яе разам з целам даюць дзецям бацькі? Паводля аднагоднае навукі ўсіх хрысьціянскіх вучоных душу кажнаразова творыць Бог і дае яе чалавеку ў мамэнце яго зачацьця. Ня будзем тут пералічваць розных іншых тэорыяў і дагадкаў, бо беларускі народ і так ніколі ня сумніваўся ў тым, што душа паходзіць ад Бога. Аб няздарах народная мудрасьць кажа: «Усадзіў Бог душу ні ў пень, ні ў грушу».

Але з гэтага вынікае, што чалавек ад мамэнту зачацьця, гэта значыць ад мамэнту злучэньня душы з целам ёсьць поўнавартасным чалавекам, які мае права ўважаць Бога за свойго Айца Нябеснага і, дайшоўшы да мамэнту ўжываньня розуму, зьвяртацца да Яго: «Ойча наш, каторы ёсьць на небе!»



## АБРАЗ І ПАДАБЕНСТВА БОЖАЕ.

У сьвятым Пісаньні ёсьць сказ, што Бог сатварыў чалавека на свой абраз і падабенства (Быц. 1, 26). Гэты абраз Божы ня ёсьць у целе, бо некаторыя жывёлы маюць цела ў шмат чым вельмі падобнае да людзкога, але ня маюць абразу Божага. Вось-жа гэтае падабенства ёсьць у разумнай і духовай душы.

Бог ёсьць бесканечны, а ў чалавеку ўсяго дробненькая іскарка з Яго дасканаласьці, аднак яна запраўды выяўляе вельмі вымоўна сваё боскае паходжаньне. Бог ёсьць Створцам сусьвету, а чалавек, дзякуючы іскры Божай — сваёй разумнай душы — так-жа бязустанку памнажае свае творы культуры і цывілізацыі. Жывёлы нават з высокаарганізаванымі інстынктамі, астаюцца на адной ступені, ні на крок ня ступаючы ўпярод, а чалавек амаль штодня вынайходзіць нешта новае, заўсёды нешта «творыць».

Як Бог у Сабе ёсьць самая Любоў, Праўда і Дабро, так дробная іскра Божая ў чалавеку вечна гоніць яго змагацца за праўду, шукаць любові і ненасытна жадаць дабра. Колькі гэта каштуе цярпеньня, колькі ахвяраў! аднак гэта не адстрашвае чалавека, бо ў гэтым бачыць сваё шчасьце. Блукаемся мы часта па розных звадлівых шляхох у гэтых пошуках; замест праўдзівага сьвету Праўды, часта ўганяемся да змору за блуднымі вогнікамі, але шукаць ніколі не перастаем. Калі-ж ясна выявяцца нашы дрэнныя ўчынкі — саромеемся іх. Адзін чалавек з усіх сатварэньняў на Зямлі мае пачуцьцё сарамязьлівасьці, бо адзін-жа ён мае тую Божую іскру — душу.

## НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ ДУШЫ.

### Аб чым нясьведама сьведчаць ворагі?

Магчыма, што ня было-б зусім працаўнікаў існаваньня душы, каб душа гінула з мамэнтам сьмерці чалавека. Аднак таму, што наглядна і лягічна з духовасьці душы вынікае яе несьмяротнасьць, тыя, каму гэта не на руку, шукаюць розных спосабаў пазбыцца гэтае няпрыемнае для іх думкі; найчасьцей бяз ніякіх доказаў, ні за, ані супраць — проста адкідаюць гэтую думку. Аднак хоць, як злодзей хоча, каб заўсёды была цёмная ноч — сонца ўсходзіць і настае ясны дзень. Хоць як стараюцца людзі з нячыстым сумленьнем зацыткаць прыглушаны голас гэтага-ж сумленьня аб вечным існаваньні душы і голас розуму аб праўдзе гэтае думкі — запраўднасьці яны зьмяніць ня могуць, наадварот — гэты страх зьяўляецца адным доказам больш, што ён не дарэмны, а мае нейкую рэальную аснову.

### Душа не раскладаецца.

Сьмерць жывога арганізму — гэта разлучэньне на сустаўныя часткі. Фізычная сьмерць чалавека настае тады, калі душа разьдзяляецца з целам. Але як-жа можа ўмерці сама душа, калі яна простая і ня мае ніякіх частак? Калі навучныя досьледы паказваюць, што матэрыя ў сваіх аснаўных складнікох нязьнішчальная, дык тымбольш нязьнішчальная душа.

### Божая воля.

Адзіная сіла, якая магла-б зьнішчыць душу ёсьць Бог, але якраз Бог выразна і шматразова вуснамі сваіх прарокаў і Сам Ісус Хрыстос, аб'явіў людзям, што душа прызначана для жыцьця вечнага. Усё сьв. Пісаньне аднагодна сьведчыць аб гэтым. Уся навука Хрыста — гэта навука аб тым, як спасьці сваю душу для вечнага жыцьця.

Хто ня чытае сьв. Пісаньня, дык тую самую праўду мусіць вычытаць у прыродзе, дзе так-жа выразна Божаю рукою выпісана на кожным камені і на кожнай пясчынцы, што раз створанага Бог ня зьнішчае.

### Агульнае перакананьне.

Людзі ў сваіх думках памыляюцца часта; аднак, калі аб нечым усе аднагодна перакананы, дык з такою думкаю нельга ня лічыцца. А думка аб несьмяротнасьці душы ад таго часу, як чалавек стаўся чалавекам, неадступна суправаджала ўсё жыцьцё чалавека. Толькі новая цывілізацыя нарадзіла недаверкаў у несьмяротнасьць душы, але і то параўнальна ня шмат, захопліваючы толькі некаторыя кругі.

Праўда, самую душы ўяўлялі заўсёды неаднолькава і яе пазагробнае жыцьцё так-жа часам вельмі фантастычна, але не сумліваліся ў самае гэтае жыцьцё. Старыя курганы і розныя хаўтурныя абрады так даўней, як і сёньня ўва ўсіх народаў і плямёнаў сьведчаць аб гэтым аднагодна.

### Уроджанае жаданьне.

Нават як-бы сёньня была бальшыня недаверкаў, дык можна і трэба спасылацца на агульнае

 

перакананьне людзей у несьмяротнасьць, як на пераконваючы доказ, бо гэтае перакананьне не зьяўляецца творам фантазіі, як гэта стараюцца даказаць матэрыялісты, але яно ёсьць уроджаным жаданьнем чалавека. Калі-ж усе нечага жадаюць з прыроды, дык ім, паводля праў тае-ж прыроды, мусіць нешта адказваць канкрэтнае. Падобна як кожны інстынкт жывёлаў мае сваё апраўданьне ў нейкім канкрэтным прыродным зьявішчы, так людзкое жаданьне несьмяротнасьці мае сваё апраўданьне ў факце існаваньня пазагробнага жыцьця. Нават шматлікія матэрыялісты ня могуць вызбыцца гэтага жаданьня і каб заспакоіць сваё сумленьне шукаюць гэтае несьмяротнасьці ў матэрыяльнай форме — у прадоўжаньні свайго роду.

### Вымогі справядлівасьці.

У дачасным, земскім жыцьці чалавека дзеецца толькі крыўдаў, толькі няпраўды, якія астаюцца непакаранымі, а з другого боку чэсныя і справядлівыя людзі часта мусяць пераносіць такую бяду і цярпеньні ,што як-бы за гэта ніколі ня было справядлівае нагароды, жыцьцё было-б пазбаўлена свайго сэнсу. Аднак дапусьціць гэткае думкі нельга нават з чыста разумовага гледзішча, бо ў прыродзе ўсюды мы бачым лад і парадак.

У сьв. Пісаньні найпрыгажэйшы прыклад справядлівасьці знайходзім у прыповесьці аб багачу і Лазару (Лук. 16, 19-31). Баляваў багацей штодзенна, забыўшыся аб Божых прыказаньнях, крыўдзіў і зьдзекаваўся з іншых, а над бедным Лазарам толькі сабакі літаваліся, залізваючы яго раны, але ня доўга гэта трывала — пасьля сьмерці палажэньне іх зьмянілася. Тады й адзываецца Аўраам да несправядлівага багацея: «Сыне! прыпомні. што ў жыцьці тваім меў ты добрае, а Лазар благое; цяпер-жа ён тут пацяшаецца, а ты церпіш вялікія мукі».

Пры гэтай нагодзе трэба абавязкава зрабіць засьцярогу, што самае прызнаньне загробнае нагароды за цярпеньні ў дачасным жыцьці зусім не звальняе чалавека ад змаганьня за справядлівасьць, наадварот на кожнага накладае абавязак прыймаць удзел у гэтым змаганьні. Але змаганьне гэта яшчэ не самая справядлівасьць; ды ў змаганьні ўсяк здараецца дык нагарода і за змаганьне, і за цярпеньне мусіць быць у іншым жыцьці.

Раней бязбожніцкая прапаганда казала: «Разумныя дурням аддалі неба, каб самым прастарней было жыць на зямлі», але сёньня мы бачым, што запраўды гэта бязбожнікі стараюцца адкінуць неба, каб самым безадказна жыць на зямлі. Аднак як чалавек бясьсільны супраць сьмерці, так ён ня у стане зьмяніць тае справядлівасьці, якая чакае кожнага ў пазагробным жыцьці.

### РАТУЙ СВАЮ ДУШУ.

Практычным высноўкам з усяго вышэй сказанага мусіць быць вось гэты кліч: «Ратуй сваю душу! Бо душа гэта ня толькі найбольшы наш скарб, але й адзіны, які прызначаны для вечнага існаваньня. Усё дачаснае мінецца, ўсё калісьці пакінем, толькі адзіная душа з сваімі ўчынкамі пойдзе ў іншы сьвет».

Здаровы і поўны сілы чалавек вельмі часта забываецца аб гэтым найважнейшым абавязку свайго жыцьця, але ў часе немачы, калі вязі душы й цела слабеюць, калі душа пачынае судакранацца з тым іншым сьветам, тады зьяўляюцца розныя «прывіды» і «зданьні», якія абуджаюць прыспаны голас нават неаднаго закамянелага грэшніка, таму на ложу сьмерці вельмі часта навяртаюцца, але найчасьцей тады ўжо няма часу для направы свайго затрачанага жыцьця.

Таму вось гэтых некалькі думак прызначаны для таго, каб загадзя падбаць аб вечнасьці свае душы.

### Курганы.

На Беларусі нямала ёсьць памятак мінулага, але магчыма найцікавейшымі з іх ёсьць старавечныя курганы. Хаваюць яны не адну гістарычную тайніцу, прамоўчваюць яны аб шмат чым, але аб найважнейшым яны сьведчаць бязустанку. Таму дарма зьвяртаецца да іх паэт:

Гэй, спрадвечныя курганы
Даўных спраў вартаўнікі!
Эх, ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі.

Праўды не аб усім яны кажуць, але аб найважнейшай праўдзе жыцьця, яны кожнаму крычма крычаць:

«Памятай аб сваёй душы. Для яе ратунку не шкадуй ніякага труду. Хоць горы трэба пераварочваць дзеля гэтага, дык выканаць гэта неабходна, а прыкладам у гэтым можам служыць табе мы — тваё слаўныя продкі, якія для дабра душы насыпалі гэтыя курганы».

**а. Л. Гарошка.**



# Часы Хрыста і нашы

У кожным стагодзьдзі ёсьць такія падзеі і здарэньні, што надаюць для данае эпохі свомы незацёрты сьлед. Для нас-жа карысна і цікава заглянуць у тыя гістарычныя эпохі, калі жылі і дзеялі людзі, якія сталіся зваротным пунктам у гісторыі, а пасьля перайсьці да сучаснасьці, ды прыраўняць розныя часы.

Эпоха, ў якой жыў і дзеяў Ісус Хрыстос, зьяўляецца найбольш зваротнай у гісторыі сьвету, яе трэба пазнаць усім тым, хто носіць Ягонае імя, а гэта дзеля таго, каб лепш ацаніць дзейнасьць Хрыста і пазнаць Яго веліч.

Таму, хто зацікавіўся часамі Хрыста, немагчыма не заўважыць чатырох галоўных гістарычна ўсталеных дзейнікаў, якія вельмі яскрава кідаюцца ў вочы і якімі ёсьць:

1. Рымская імпэрыя і яе палітыка,
2. Паганства,
3. Грэцкая філязофія,
4. Жыдоўскі народ і яго ныя лятуценьні.

Вось тыя чатыры дзейнікі, якія агортвалі тагачасныя здарэньні і вязалі іх між сабою ды кіравалі сумленьнем адзінак-палітыкаў і ўсіх народаў разам і кожнага асобна быццам тыя хвалі ўзбуранага мора жыцьця, кіраваныя ўсемагутным Божым правідам. Яны хоць і кідалі чалавекам, аднак усьцяж прыбліжалі яго да апошняе мэты і прызначаньня.

### Рымская імпэрыя і яе палітыка.

Што такое Рымская імпэрыя і яе палітыка?

Гэта было зборышча амаль усіх народаў Эўропы, Азіі й Афрыкі; гэта-ж адна з найбольш магутных палітычных арганізацыяў, якія толькі бачыў сьвет.

Грэцыя й Італія, абтокі й узьбярэжжа Міжземнага мора, Малая й Сярэдняя Азія, Сірыя й Фэнікія, Егіпет і паўночная Афрыка, Гішпанія й Гальлія (Францыя), Нямеччына ад Дунаю аж да Рэйну — усё гэта Рым быў здабыў і ўсім завалодаў.

Рымскія шляхі пачыналі свой бег ад Форум Романум, раскідаліся праменьнямі па ўсім абшары імпэрыі і зьвязвалі ў адну сетку найбольш стратэгічныя пункты. Яны сягалі на поўначы да Шкоцыі, на захадзе да Люзітаніі (сёньняшняя Партугалія) і акіяну, на поўдні за Тэбаіду, а на ўсходзе ўрэзваліся ў Арабскую пустыню.

Уладаром быў Цэзар Аўгуст. Уся ўлада была ў яго руках. Ён меў так-жа тытул Найвышэйшага Сьвятара; Понтіфэкс Максімус. Яму далі назоў, які звычайна прыслугоўвае багом: «Дівус», «Аўгустус». За яго часоў разьвіваецца і красуе літаратура, скульптура, будаўніцтва ды іншае мастацтва. Будуюцца дагодныя вадацягі, сьвятыні. Народ мае ўдостань хлеба, а імпэратар не шкадуе так-жа грошаў на йгрышчы і гульні. Ад Аўгуста выходзяць загады пракуратарам і адміністратарам, каб яны парабілі дакладныя сьпіскі падуладных, каб лепш было разглянуцца ў багацьці імпэрыі...

І ў тым зборышчы розных расаў і народаў, у той агромністай абшарам імпэрыі — ці-ж ня дзіва? — там заўладаў супакой, «Pax Romana» Ніякая палітычная магутнасьць ніколі не магла зьдейсьніць гэтага жаданьня супакою; Гэта сьведчыць аб тым, з якім мастацтвам умелі рымляне здабываць чужыя землі, і раз іх здабыўшы, імі кіраваць; яны ўмелі калі трэба сьцярпець, патураць, каб пасьля мацней і зручней накінуць ім ярмо. Рым усюды, дзе яму выгадней, пакідаў мяйсцовых каралёў; — дзе былі нявыгадныя — бесцэрэмонна скідаў. Пакінуты аднак каралёк павінен быў плаціць дань. Часта пакідаліся каралі з ценем улады з умоваю, што яны свой вонкавы гонар купяць на вагу золата, або цаною шматлікіх падаркаў. Маленькі жыдоўскі кароль, з крыві ўжо ня жыд, Ірад Ідумеец вельмі добра знаў прагавітасьць Рыму і, каб утрымацца на пасадзе між ненавідзячых яго жыдоў, умеў яе заспакойваць.

Пры гэтай гэніяльнай і вытрывалай палітыцы на працягу сямі стагодзьдзяў Рым здолеў вырасьці да магутнасьці перад якою бляжнуць усе тыя дзяржавы, што існавалі перад ім, як імпэрыя Аляксандра Вялікага, усходнія дзяржавы, Егіпет і яго Фараоны.

Далёкагляднюю палітыку Рыму паэт выказаў у гэткіх словах:

У кіраваньні народамі помні, рымляніне,
наступных трымацца шляхоў: старацца ўводзіць супакой,
спагадаць пераможаным, ламаць рогі бунтарным.

Якую патрэбу здавальняе ў разьвіцьці чалавецтва еднасьць Рымскае імпэрыі?

Яна здавальняла патрэбу лучнасьці і сужыцьця між народамі праз аб'еднаньне людзей рымскаю палітыкаю, рымскімі шляхамі, рымскім правам і наагул рымскаю цывілізацыяю. Яна аддала вялізарную прыслугу ў тварэньні вышэйшае, дасканалейшае еднасьці між людзьмі — еднасьці Хрыстовае праўды, якое сейбітам спачатку быў Сам Хрыстос, а пасьля Яго вучні.



 

### Паганства.

Тут закранём перадусім дзейнік рэлігійны. Ніводзін край, ніводзін народ рымскае імпэрыі ня быў бязбожны, гэта значыць, няпрызнаючым над сабою вышэйшае сілы. Агульнай аднак памылкай усіх было выкрыўленьне зьвіхнеьне ўроджанага людзям пачуцьця аб Некім Вышэйшым ад чалавека, аб Некім, Каму павінна аддавацца найвышэйшая чэсьць. Апрача маленькага жыдоўскага народу ўсе найбольш культурныя народы: Егіпцяне, Сірыйцы, Фэнікійцы, Картагінцы, Грэкі й Рымляне рэлігійна вывіхнуліся. Усе яны няясна прызнаюць Бога, няўміручасьць душы, патрэбу крывавых ахвяраў дзеля праблаганьня за людзкія правіны, але адначасна яны ня вырозьніваюць Бога ад зьявішчаў прыроды, ня могуць усталіць праву этыкі і маралі. Усе яны ўгінаюцца пад цяжарам нейкага «фаталізму», блукаюцца ў лесе шматлікіх часта супярэчных з сабою філязафічных сыстэмаў, а збаўленьне ўзалежніваюць не ад добрых учынкаў, але ад выпаўненьня таёмных абрадаў, часта наіўна сьмешных, часам крывавых, а нават і распусных. Усе паганскія рэлігіі богам робяць чалавека, на яго чэсьць будуюць аўтары і сьвятыні, паляць кадзілы.

Ува ўсім гэтым рэлігія ня была запраўды рэлігіяй. Мэтай рэлігіі ёсьць паказаць чалавеку Бога, злучыць стварэньнне-чалавека з Тварцом — крыніцай вечнага шчасьця, дапамагчы чалавеку вырвацца з палону яго уласных пажаданьняў, якія цягнуць уніз і раўнуюць са зьверам. У праўдзівай рэлігіі павінна захавацца й абараняцца годнасьць, дастойнасьць чалавека.

Ніводная паганская рэлігія ня дбала аб годнасьці чалавека. Багі множыліся ў Рыме і на правінцыі на тысячы, як гэта трапна выказаў аўтар пэмы «Тарас на Парнасе»:

Залез к багом тады я ў хату...
А вохці мне, ні даць ні ўзяць,
як у казарме тых салдатаў,
багоў ня можна сашчытаць!

Клясавае рабства і распуста ўладалі вуліцай і Палятынам. Між багамі быў патрон зладзеяў: Мэркуры, патрон п'яніцаў — Бакхус, урэшце патронка чыстае любові: Вэнэра сталася багіняй распусты. Сатурналіі і бакханаліі — гэта афіцыяльна ўсанкцыянаваныя публічныя акты ўсялякае брыдоты.

Дзяржава бачыла небясьпеку гэткае рэлігіі, але ня мела спосабу ёй супроцьдзеяць. Яна шануе вэсталак, якія прысягалі захоўваць дзявоцтва, але што-ж калі й сярод іх ня ўсе захоўваюць нават вонкава сваю прысягу.

У час прыйсьця на сьвет Хрыста паганства было нямым крыкам хворага чалавека, доказам патрэбы нейкага радыкальнага леку, крычачай патрэбай «новага» Бога на мейсца фальшывых, выдуманых людзьмі з усімі людзкімі дасканасьцямі й нізкімі пажаданьнямі.

### Філязофія.

Незалежна ад палітычнае і рэлігійнае сілы зьяўляецца трэцяя сіла — розум.

Палітычная сіла імкнецца да ўвядзеньня грамадзкага ладу, да ўзросту вонкавае цывілізацыі і да палепшаньня матэрыяльнага дабрабыту людзей; рэлігійная сіла павінна ўнармаваць адносіны да Бога, а сіла розуму ёсьць імкненьнем разумнае істоты да таго, каб выясьніць пачатак, першапрычыну сусьвету, каб знайсьці мэту жыцьця. Сіла розуму выяўляецца ў навуцы агулам а ў філязофіі ў асаблівасьці.

Кожны народ дайшоўшы да пэўнага ўзроўню разьвіцьця мае сваю цывілізацыю, сваю філязофію.

Калі Рым уладаў сьветам, а паганства людзьмі, тады ўсёўладнаю была грэцкая філязофія. Народы ўсходу далі пачатак розным рэлігіям; Рым стаўся прыкладам права, вонкавага ладу й палітыкі; Грэцыя сталася настаўніцаю для ўсіх народаў у мастацтве, эстэтыцы й філязофіі.

Можна сказаць без перасады, што ўсе магчымыя думкі і дагадкі людзкога розуму, які ўсьцяж імкнецца здабыць праўду, былі ўжо запачаткаваныя ў Грэцыі, там-жа былі яны разьвіты і лягічна даведзены да канца. Грэцкім філязофам мастаком можна дараўняць, але цяжка іх перавысіць. Успомнім для прыкладу хоць некалькі імёнаў, што на працягу тысячагодзьдзяў ня зьменшылі свае велічы: Гомэр, Піндар, Эмпэдокл; Пітагор, Сакрат, Арыстотэль; Плятон; Зэнон; Праксытэлен, Фідый, Эсхіл; Дэмостэн... Нехта сказаў, што няма тае памылкі, якая-б ня мела сваіх апосталаў сярод старых грэкаў, але няма так-жа тае праўды, аб якой-бы грэкі не гаварылі. Аднак уніклівы розум грэцкіх філязофаў закранаючы найвышэйшыя праўды, выявіўся слабенькім і кволым ў адносінах да істотных, карэнных праўдаў якімі ёсьць вера ў аднаго Бога, стварэньне з нічога матэрыі, несьмяротнасьць душы і прышлае вечнае жыцьцё.

### Жыдоўскі народ і ягоныя лятуценькі.

У моры паганства адзіны жыдоўскі народ аставаўся верным адзінаму праўдзіваму Богу, славіў Яго ў песьнях-псальмах, гаварыў з Ім праз прарокаў. Ня раз так-жа цяжка правіняўся й ён супроць Бога і тады быў горка караны за недаверства. Прымітыўнае сэміцкае племя ад часоў Майсея мае сваю натхнёную літаратуру сваё права, сваю палітычную арганізацыю.



Дзьве географічна маленькія краіны: Грэцыя й Палестына далі чалавецтву ня менш волатаў духа і жыватворчага слова, чым усе краіны да іх і пасьля іх існуючыя. Калі аднак гэній Гэляды пераважна за мэту сваіх досьледаў браў чалавека ўва ўсёй яго красе і з усімі слабасьцямі, дык гэній вернага Богу сэміты імкнуўся перадусім упарадкаваць свае маральныя й этычныя дачыненьні. Гуманізм грэкаў шукаў у багох чалавека, тады калі жыдоўскі тэократызм уносіў у штодзеннасьць Бога й Яго права.

Часы Хрыста — для жыдоў гэта часы палітычнага ўпадку, рэлігійнае дэкадэнцыі. Рабіны аблічаюць, колькі прыпісаў мае Тора, даюць шматлікія камэнтары, як іх трэба выконваць. Вонкавае захаваньне рэлігійных цэрымоніяў і прыпісаў права стае дастатковым, каб у вачох таўпы быць «пабожным»... Дзьве галоўныя сэкты фарысэяў і садукеяў у нязгодзе з сабою, што да найістанейшых пытаньняў рэлігіі, як несьмяротнасьці душы, ўваскрасеньня, існаваньня ангелаў і т. п. Ідэя мэсыянізму выкрыўляецца. Замест усяўладнае дзяржавы духа і праўды, аб чым зьвяшчалі прарокі, жыды лятуцяць аб незалежнай дзяржаве, якой будзе падлягаць увесь сьвет і Рым пакланіцца перад Сіонам.

**а. др. Ч. Сіповіч.**

(Працяг будзе).

# ГЭРОІ

На сам успамін аб гэроях, кожнаму ведаючаму гісторыю, прыходзяць на памяць такія імёны як Леаніла з-пад Тэрмапіляў, Аляксандра Македонскага, Усяслава Чарадзея, Напалеона; Кастуся Каліноўскага і т. д., і т. д.

Кожны народ у сваёй гісторыі мае ня мала такіх постацяў, на якіх чэсць ставіць помнікі, піша шматтомныя кнігі, каб гэткім чынам аддаць ім заслужаную пашану, а наступным пакаленьням даць добры прыклад.

Так ужо ўцерлася між людзьмі, што гэройства прыпісваецца амаль выключна сьвецкім людзям. Прыглянуўшыся ўважней да сьецкіх гэрояў, можна заўважыць, што бальшыня з іх мела ад прыроды нейкія асаблівыя дараваньні ці розуму, ці сілы, ці нейкія іншыя здольнасьці, дзякуючы якім яны змаглі выканаць надзвычайныя ўчынкі. Калі падзіўляем гэройства людзей з асаблівымі прыроднымі дараваньнямі, дык як тады мусім падзіўляць, і якую мусім мець пашану да тых людзей, якія выконвалі надзвычайныя ўчынкі з малымі прыроднымі здольнасьцямі? А гэткіх гэрояў у нязьлічанай колькасьці можна стрэнуць у ліку сьвятых. Зрэштаю цяпер толькі таго й залічаюць у сьвятыя, ў каго бяз сумніву сьцьвердзяць гэройскія цноты.

Некаторыя сьвецкія гэроі ўслаўліваюцца ўсяго за адзін, другі ўчынак, а сьвятыя на працягу гадоў, а часта на працягу доўгіх дзясяткаў гадоў штодзенна праяўлялі сваё гэройства.

Шматлікія сьвецкія гэроі аддалі сваё жыцьцё за вялікія ідэі для дабра ці абароны іншых, а сьвятыя, асабліва мучанікі, у нязьлічанай колькасьці ня толькі аддалі сваё жыцьцё за свае сьвятыя пераканаяньні але перад тым выцерпелі страшэнныя і доўгія мукі, падчас якіх каты стараліся прывесьці іх да адступства.

Нават пералічыць немагчыма ўсіх тых мучэньняў, якіх дазналі першыя хрысьціянскія мучанікі падчас прасьледаў. Найчасьцей зачыналася ад бічаваньня, каб потым перайходзіць па чарзе да разьдзіраньня шкуры, пасыпаньня ранаў сольлю, распальваньня смалою, ці жалезам, забіваньня цьвікоў у канцы пальцаў і пяты, адразаньня частак цела, вешаньня дагары нагамі. Пасьля кожнае з гэтых мукаў вымагалася адступства і пагражалася горшымі карамі.

Вельмі шанаваная на Беларусі сьв. Барбара († 235 г. памяць 4-XII) выцерпеўшы амаль усе вышэй пералічаныя мукі, калі даведалася аб выраку сьмерці праз галавасячэньня, не зважаючы на сваю маладосьць і красу, з радасьцю ўкленчыла пад меч, які трымаў у руках яе родны бацька, прыслужнік імпэратара.

Сьв. Пракопа († 303 г. пам. 8-VII) па загаду Діокліціяна кат стараўся за ўсякую цану прывесьці да адступства. Звыраднелая фантазія ката вычарпала блізу ўсе магчымыя мукі, але мужны жаўнер Пракоп аставаўся непахісным. Каб вымагчы сіламоц хоць для вока прызнаньне паганскіх багоў, кат у зьнямажаную і акрываўленую руку сьвятога накладае кадзіла і ўпіхпе ў агонь перад ідалам бажка, аднак рука сьвятога і ў агні не рашчамілася. А гэткіх як сьвяты Пракоп былі нязьлічаныя тысячы. Рымскія катакомбы зьяўляюцца жывымі сьведкамі для іх яшчэ й сёньня, і будуць сьведчыць вечна.

Бесьпярэчна гэта вялікае гэройства аддаць сваё жыцьцё дзеля нейкае ідэі, але між сьвятымі спатыкаюцца шматлікія, якіх жыцьцё раўназначна павольнаму, штодзеннаму аддаваньню жыцьця, быццам нейкаму частковаму паміраньню.

Слуга Божы Даміян дэ Вэстэр (1840-1889) аж 16 гадоў бязвыхадна абслугоўваў пракажоных у Малакайскай лепразорыі на Гавайскіх абтоках, каб канчаткова і самому зьлегчы разам з тымі няшчаснымі на ложу павольнае сьмерці. Аб тым колькі мусіла быць гэройства ў гэтага чала-

века можна пабачыць з таго, што ў шпіталюлепразорыі ад зажыва гніючых хворых быў такі смурод, што спачатку бяз прывычкі, аглядаючы гэтых хворых, мусіў часта выходзіць на сьвежае паветра перавесьці дух.

Шматлікія сьвецкія гэроі выконвалі свае ўчынкі дзеля славы і почасьцяў, сьвятыя наадварот — у бальшыні выпадкаў яны зракаліся ўсякае людзкое славы, каб пакорна і сьціпла служыць Хрысту і перацярпець за яго паніжэньне і сьмерць.

Сьв. Агнешка († 304 г. пам. 21-І) дачка рымскіх магнатаў у 12 годзе жыцьця дзякуючы сваёй красе мае некалькі прапановаў ад рымскіх вяльможаў стацца слаўнай, багатай і магутнай аддаўшыся ім — усё гэта адкідае дзеля Хрыста. Самыя разнаякія і жахлівыя мукі і зьняслаўленьні не зламалі сьвятое юначкі; яна мужна перацярпела ўсе мукі і з радасьцю прыняла сьмерць, каб выказаць сваю вернасьць Хрысту.

За прыкладам сьв. Агнешкі і наша патронка Беларусі сьв. Еўфрасіня (1101-1167, пам. 23-V) князёўна Полацкая ў 12 годзе жыцьця зракаецца ўсякае славы, кароны, багацьця і почасьцяў, каб замкнуўшыся ў манастыры аддаць усё сваё жыцьцё і здольнасьці на службу Богу і свайму народу.

А колькі было такіх, як сьв. Аляксей чалавек Божы (У. в. пам. 17-3), які, будучы сынам рымскага сэнатара пакідае свой дом і маладую жонку ў дзень шлюбу, каб усё жыцьцё астацца нікому нязнаным убогім?

Сьвецкія гэроі здабывалі славу ў змаганьні — сьвятыя таксама мусілі змагацца, але змагацца з найгоршым ворагам чалавецтва, з людзкою злобаю, і вельмі часта былі адзінокімі ў гэтым змаганьні, а іхнімі супрацоўнікамі былі людзі на найвышэйшых грамадзкіх становішчах

Сьв. Іван Залатавусты (324-407, пам. 27-1 13 XI) у абароне хрысьціянскае маралі не зьлякаўся выступаць супроць усяго імпэратарскага візантыйскага двара. Сьв. Аўрам Смаленскі († 1221, пам. 21-VIII), патрон багаслоўскае асьветы на Беларусі бараніў праўдаў хрысьціянскае веры, хоць яго-ж браты-духоўнікі і манахі паўставалі супроць яго дзеля ягонае шчырасьці ў працы для народнага дабра.

Гэройства сьвецкіх людзей мы можам падзіўляць і пробаваць насьледаваць, але гэройства сьвятых можа і павінна стацца для кожнага чалавека добрае волі нявычарпальным жаралом непераможнае сілы. Між сьвятымі мы бачым ня толькі дарослых, але шматлікіх дзяцей і юнакоў, гэройства якіх ня мае сабе падобных прыкладаў між сьвецкімі гэроямі.

З даўных часоў уславіўся юнак сьв. Тарзікус (пам. 15-VIII), які падчас самага разгару прасьледаваньня хрысьціян згадзіўся занесьці Найсьвяцейшую Еўхарыстыю для тых, што чакалі мукаў і сьмерці. І хоць вулічны натаўп і рымскія легіянэры, злавіўшы яго, усімі сіламі стараліся адабраць ад юнака ягоны сьвяты скарб — не змаглі. Азброеныя ваякі змаглі пашматаваць цела сьвятога юнака, але не змаглі выдзерці сьвятых Тайнаў, а ў ягонай крыві Найсьвяцейшая Кроў і Цела Хрыста зьмяшаліся так, што пагане ня здолелі іх адрозьніць.

Шмат было слаўных пераможцаў на сьвеце, аднак ніводзін з іх не дараўняецца сьв. Жаньне д-Арк (1412-1431, пам. 30-V). Няграматная простая вясковая дзяўчына, пастушка на заклік Божага голасу йдзе вызваляць Францыю, маючы толькі 17 гадоў. За тры месяцы сьвятая юначка Жанна апанавала палажэньне, якое ў выніку стагодняе вайны здавалася безнадзейным. Маючы ворагаў нават у сваіх радох, яна здабывае перамогу за перамогаю і кожны адчуваў і бачыў, што з ёю надзвычайная сіла, што з ёю Бог. Чаго не змагло сьвецкае гэройства, тое лёгка асягнута сьвятым гэройствам.

Сёньня мы і ўвесь сьвет перажываем нязьмерна цяжкі час, для шмат каго палажэньне выглядае сумным і трагічным. Адны пасыўна чакаюць заўтрашняга дня, другія самі стараюцца знайсьці шчасьлівы выхад з гэтага палажэньня. Людзі гэтага сьвету з неахвотаю адносяцца да тых людзей, якія зусім адарваліся ад зямлі і заглядзеліся ў нёба, бо маўляў, мы людзі гэтага сьвету, мы жывём на зямлі. Добра, але якраз на зямлі мы маем нязьлічаныя сьляды нашых братоў, якія ад зямлі не адрываліся, аднак ішлі тым сьветлым жыцьцёвым шляхам, які упэўнена вёў да Бога, які быў поўны найвышэйшага гэройства і які быў для ўсяго людзтва такім дабрадзействам, што аб ім нельга ніколі забывацца. Асабліва ў сучасным ліхалецьці трэба гэтыя сьляды адсьвяжыць, бо яны ўказваюць на тую сьцежку, якая можа вывесьці сьвет з ліхалецьця.

**а. Леў.**

# СУМЛЕНЬНЕ ЗАГАВАРАЛА

У вёсцы ніхто Нупрэя інакш і не называў, як Жмінда, бо гэткага другога скнэры мусіць цяжка было-б у сьвеце знайці. Чалавек за *грош* гатоў быў павесіцца, дык ўсё што мог, пераганяў на грошы, на золата. Масла бывала толькі тады дзеці маглі скаштаваць, калі ўжо так зьялчэла, што нельга было прадаць. А калі ў капусьце пахла мясам, дык гэта было вельмі вялікае сьвята, *хоць гаспадарка не малая* была, але Нупрэй ўсё зьбіраў «на чорную гадзіну» і загэтым ніколі сьветлае хвіліны ня бачыў.

Кожны гаспадар зьбірае на запас, бо ведама «хто жыве без запасу, той гіне бяз часу», але на Нупрэявым запасе і на яго багацьці было толькі людзкое крыўды, што мусіць больш чым таго самога багацьця. Бывала, калі камусьці былі патрэбны грошы, як гэта кажуць пад зарэз, дык ішоў да Нупрэя і доўга таргуючыся вымольваў 75 рублёў на год, а вэксаль мусіў даць на 100. І гэта Нупрэй лічыў за вялікую ласку.

Нупрэяў загон на полі вырозьніваўся ад усіх. Завораны заўсёды быў на склад, а барозны абапал былі ў пояс. Аручы, калі хоць на корх не абараў суседа, жыць ня мог. Але суседзі былі не з такіх, што дазвалялі сабе пляваць у міску. І тут вось здарылася тое, чаго Нупрэй ніяк не спадзяваўся.

Аднойчы вясною, а дзеялася гэта перад першай сусьветнай вайною, калі ў нас яшчэ аралі сохамі, абганяў ён свой апошні верацень у Ашнарох і не пашкадаваў запусьціць лемяшы ў Сьцяпанаў загон. На дадатках яшчэ падрэзаў яго так, што пасьля першага дажджу ня мала ворнае зямлі аплыло-б у баразну. Калі агледнуўся Нупрэй на сваю работу, дык аж у самога рукі задрыжалі, а яшчэ як на тое, ня так далёка адгэтуль у Трэцім Полі, як цень сновалася сівая сьцяпанава кабыла.

— Трэба мусіць барджджэй дамоў, каб мяне тут не застаў, — падумаў Нупрэй і сьцебануўшы каня, чуць ня подбегам накіраваўся ў вёску.

Хуценька распрог каня; вывеў яго на выган і пайшоў да крайняе хаты, каб з-за вугла цікаваць, што будзе рабіць Сьцяпан, як пабачыць яго «работу».

А Сьпяцан з роду ня меў такое прывычкі, каб няўважліва праяздждаць каля свайго поля. Дык цяпер, як толькі даехаў да Ашнароў і пабачыў сьвежую ральлю каля свайга загона, зараз спыніў кабылу. Як глянуў на нупрэяву баразну, аж ня вытрымаў, каб не залаецца:

— Каб цябе сьвет не сьвяціў, нагульска ты гэткі...

Неадлучным пугаўём перакінуў загон

— На цэлую пядзю адрэзаў!

Доўга ня думаючы, Сьцяпан выцягнуў саху з паўзакоў і накіраваў ў сьвежую баразну.

А Нупрэй, як арол віжаваў здалёк, і як толькі пабачыў, што сівая сьцяпанава кабыла накіравалася ў баразну, назіркам кінуўся паўз агарожы да свайго загону.

Як на тое, прайшоўшы некалькі крокаў, Сьцяпан пачаў правіць сваю саху і ніяк ня мог добра падняць паліцы. Тымчасам Нупрэй высунуўся з-за агарожы і пабачыў, што ад яго хітрае «работы» не астаецца нават і сьледу. Да таго яшчэ, як на сьмех, Сьцяпан са сьпеху нават свае паўзакі на яго сьвежую ральлю кінуў. Нупрэй счаміўшы губы ад злосьці, ухапіў гэныя паўзакі і, як патайны сабака, прыгнуўшыся зацюхціў да Сьцяпана, і ня кажучы ні слова, ашарашыў яго паўзакамі па галаве.

Сьцяпан, як стаяў нагнуўшыся над сахою, так і асунуўся на зямлю. Толькі глухі енк вырваўся з яго вуснаў, кроў брызнула з галавы. Спалоханая кабыла паімчалася па полі з пераверненаю сахою. Нупрэй, пабачыўшы, што Сьцяпан ляжыць бяз руху, толькі кроў сьцякае па яго абліччы, выплываючы з густых валасоў, пералякаўся так, што ня ведаў нават куды ўцякаць. Быў кінуўся бегчы ў вёску, але раптам ўканцы вёскі пачуўся гоман і людзі кінуліся напярэймы сьцяпанавай кабыле. Нупрэю здалося, што гэта гоняцца за ім, дык хутка кінуўся ў другі бок.

---

Цэлых два тыдні Сьцяпан быў ні жывы, ні мёртвы; яго ўвесь час адлівалі вадою, ён адышоўшы зноў млеў. У хаце ўсе хадзілі на пальчыках, а Сьцяпаніха, звычайна аж вельмі языкатая кабета, на гэты час маўляў занямела.

У Нупрэявй хаце як раты ўсім пазаймала. Сьцяпанава хата была толькі праз дарогу і відаць было, як на плоце вісела закрываўленая сарочка, як яе потым Сьцяпаніха мыла, як выносілі волу і акрываўленыя шматы.

Нупрэй баяўся стрэнуць погляд чалавека. Калі жонка, ці дзеці глядзілі ў яго бок, ён стараўся скарэй адвярнуцца, а калі магчыма зусім выйсьці з хаты. Ежа станавілася яму калом у горле і ён ня мог яе праглынуць. Ад недаяданьня на другі тыдзень Нупрэй пажоўк, а на трэці тыдзень пачаў зелянець. У яго вочах пачалі круціцца тарапачы і між імі заўсёды і ўсюды яму мроілася акрываўленая галава Сьцяпана.

Возьме ложку, каб есьці — там акрываўленая галава; возьме скібку хлеба — тое самое; на рукі гляне — і там здаецца Сьцяпанава галава. Яму вылівалі пярэпалах, загаворвалі, давалі розных зёлак — нічога не памагала.

На трэці тыдзень Сьцяпан пачаў правіцца, а на чацьвёрты пачаў хадзіць. Да яго часта прыходзіў найлепшы прыяцель Лявон. Бывала з ім зімою цэлымі вечарамі пялі пабожныя песьні старым беларускім звычаем. Калі ў чацьвёртую нядзелю ад таго няшчаснага здарэньня Лявон раніцаю прышоў да Сьцяпана і пабачыў, што той ходзіць, прывітаўся зусім радасна:

— Слава Ісусу Хрысту!

— Слава на векі! — дружна адказалі хатнія.

— Што, ўжо вучышся хадзіць?

— Вучуся, Лявонка. Быў я ўжо адною нагою на тым сьвеце, а цяпер вось абедзьвемі зноў трэба таптацца па гэтай зямлі.

— Дзякуй Богу, што хоць гэтак сталася.

— Трэба было-б пайсьці ў царкву хоць сьвечку паставіць, дык яшчэ ногі ня слухаюцца.

— Акрыяеш, пойдзем, а пакуль што і тут можна Богу памаліцца.



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

Перакінуўшыся яшчэ некалькімі словамі, яны старым звычаем пачалі пяяць, а Сьцяпаніха з чаплёю у руках кошкаючыся ў печы, ім памагала.

У самых варотах сьцяпанавае хаты быў калодзезь. Калі Нупрэй, як заўсёды пахмурны, прышоў у гэтую нядзелю раніцаю па воду, чуць не аслупянеў з дзіва. Вушом сваім ня верыў... У сьцяпанавай хаце лунае песьня; звонка зьвініць Лявонаў голас, ціха адзываецца Сьцяпан і тонкі жаночы голас сугучна разьлягаецца на ўсю хату:

Кажуць людзі, што я памру,
А я хочу жыці...
Колькі жыўшы на сём сьвеце,
Патрэба памерці...

Каб праклінаlі, каб сварыліся, каб судзіліся, — было-б Нупрэю нязьмерна лягчэй; можа-б хоць ад сэрца адлягло ў спрэчках, а гэта пяюць... ды яшчэ што? Добра ведаў змаленства гэтую песьню.

Ухапіўшы вядро, пабег хутчэй ад калодзезя і ад вакна, але песьня неадлучна зьвінела ў вушох, выплывалі далейшыя звароткі:

Ня дай у грахох памерці,
Міласьцівы Божа.

Яшчэ раней, амаль кожную нядзелю ён чуў розныя пабожныя песьні з гэтага самага вакна, але на іх і вухам ня вёў, а вось цяпер ён і так, як сам ня свой, ня мог знайсьці сабе супакою. Ён хадзіў з кута ў кут, як няпрыкаенны. Быў пайшоў у клець, але там у прыцемках яму здалася дамавіна, з якое Сьцяпан пяе магільным голасам. Выйшаў на двор -- зноў чуваць, як пяюць...

Сонца ясна сьвяціла на небе; навокал усё зелянела і цьвіло. Папалудні Сьцяпан з абвязанаю галавою выйшаў на прызбу. Нупрэй, як злодзей паглядаў на яго праз паркан і нейкі таёмны голас шаптаў яму:

— Пайдзі пагадзіся з ім пакуль ня позна.

Але самая думка, падыйсьці да Сьцяпана, зьлякала яго і ён хутка схаваўся.

Ад гэтага часу новая мука далучылася да Нупрэя. Ён так высах, што Палуся з страхам паглядала на яго. Пачалася касавіца, але Нупрэй ня мог пацягнуць касы.

Калі ў наступную нядзелю Сьцяпан зноў выйшаў на сваю прызбу, Нупрэй доўга сланяючыся хадзіў па сваім дворышчы. Відаць ён аб нечым моцна думаў. Палуся праз вакно назірала за ім.

— Хаця, ня дай Бог, каб не павесіўся, — думала яна.

Аж бачыць яна, і вачом сваім ня верыць, Нупрэй накіраваўся на Сьцяпанаў двор. Маланкаю выскачыла яна з хаты і прысланілася да вугла, каб бачыць і чуць, што будзе далей.

Нупрэй паволі падышоў да Сьцяпана і замест прывітаньня азваўся:

— Сьцяпан, цяжка я цябе скалечыў, даруй мне.

Сьцяпан памацаў абвязаную галаву і маўчаў.

—Дык як, не даруеш? — ціха пытаўся Нупрэй.

— Цяжка табе даруваць. Ты мне паўжыцьця адабраў, чуць дзяцей не асіроціў..,

— Цяпер мусіць мае скарэй асірацеюць.

Сьцяпан уважна прыглянуўся да Нупрэя і пабачыў, што таму запраўды асталося тры чвэрці да сьмерці. Ён хвіліну памаўчаў, потым моцна апіраючыся на свой кій, паволі ўстаў і, прасьцягаючы сваю касьцістую руку да Нупрэя, прамовіў:

— Хоць і цяжка мне, дарую табе, хай Бог даруе!

Неймаверны цяжар зваліўся з Нупрэя. Ён першы раз ад пяцёх тыдняў усьміхнуўся і павёў да сябе ў хату Сьцяпана, як свайго збаўцу.

Па дарозе пераняла іх Палуся і з сьлязамі ў вачох цалавала рукі Сьцяпана.

**Анатоль Жменя.**

# ЕРУЗАЛІМ

(Прадаўжэньне).

На цаўдня ад Сыёнскае гары знайходзіцца вузкая даліна Гіннон із стромымі скалістымі берагамі. За гэтымі берагамі, насупраць касьцёлу сьв. Пятра знаходзіцца

ГАКЭЛЬДАМА —

гэта той кавалак грунту, які быў куплены за Юдавы грошы, атрыманыя за зраду і выданьне Ісуса Хрыста. Гакэльдама і сёньня выглядае няпрыветна — гэта скалісты, мала ўжыткаваны прыгорак.

Вяртаючыся назад да места праз Сыёнскую браму, недаходзячы да цытадэлі, будзем праходзіць каля Армянскага Патрыярхату, дзе знайходзіцца

КАСЬЦЁЛ СЬВ. ЯКУБА.

У гэтым касьцёле ёсьць каплічка, азначаючая мейсца мучэньня гэтага сьв. Апостала.

Ідучы на паўднёвы-ўсход паміж іншымі забудаваньнямі, якія належаць да гэтага касьцёлу, дойдзем да манастырскае капліцы, якая лічыцца за даўнейшы

ДОМ АННЫ,

да каторага былі зразу прывялі Ісуса Хрыста, як Яго ўзялі з Гэтсэманскага саду.

Недалёка адгэтуль у кірунку Яфскае брамы знайходзіцца сырыйскі касьцёл. Гэта каліcь быў

ДОМ СЬВ. ЕВАНГЕЛІСТА МАРКА.

Сюды прышоў сьв. ап. Пятро, калі цудоўна быў выведзены ангелам з турмы. (Дзеян. Ап. XII, 6-12).

Вярнуўшыся назад на вуліцу, ды йдучы далей у тым самым кірунку, леваруч будзем мець

ВЕЖУ ДАВІДА.

Стаіць яна на руінах даўнейшага палацу Ірада. Тут затрымліваліся тры магі, калі даведаліся аб нараджэньні Мэсіі і шукалі Яго, каб аддаць Яму свой паклон. Цяпер гэтае мейсца называецца Цытадэля, тут ёсьць невялічкі музэй, але ў сярэдзіне вежы пераважна толькі руіны.

Каля Новае брамы, якая знайходзіцца ў паўночна-заходняй часьці мyроў, якія акружаюць Старое Места, ёсьць касьцёл

NOTRE DAME DE FRANCE.

Гэтым касьцёлам апякуюцца аа. Асумпсіяністы. Тут для польскіх уцекачоў штонядзелі адпраўляліся багаслужэньні з казаньнем папольску. У часе сучаснае жыдоўска-арабское вайны касьцёл часткова пашкоджаны.

Недалёка ад гэтага касьцёлу знайходзіцца францішканскі манастыр, у якім месьціцца галоўны аседак

КУСТОДЫІ СЬВ. ЗЯМЛІ,

а пры ёй касьцёл Сальвадора, або інакш Збаўцы. Гэты касьцёл даволі вялікі і прыгожы. Вырозьніваецца ён ад іншых сваею высокаю і вострaю вежаю. Унутры ў ім цемнавата, але ў Ерузаліме сонца не бракуе, дык за ім ня надта ўганяюцца.

Недалёка ад касьцёлу Збавіцеля ў кірунку Яфскай брамы знайходзіцца

ЛАЦІНСКІ ПАТРЫЯРХАТ.

Тут ёсьць патрыяршы касьцёл і рэзыдэнцыя самога Патрыярха.

Пры пляцу Альленбы, каторы знайходзіцца недалёка ад касьцёлу Нотр Дам на захад ад гэтага апошняга быў

КАСЬЦЁЛ СЁСТРАУ РЭПАРАТАК,

дзе заўсёды выстаўлена Найсьвяцейшая Еўхарыстыя, перад якою гэтыя манашкі заўсёды адаравалі, а ў пэўных азначаных гадзінах усе супольна голасна маліліся. Для вернікаў касьцёл быў адчынены ўвесь дзень, замыкаўся ён толькі нанач. 22-га травеня ўначы г.г. манастыр згарэў, а самую капліцу жыды «Хаганах» узарвалі 25-5-1948 г.

Ідучы ад гэтага касьцёлу проста на ўсход і спускаючыся ўніз, дойдзем да Дамаскінскае брамы. Крыху далей на ўсход ад гэтае брамы знайходзяцца так званыя

КАМЕНЯЛОМНІ САЛЯМОНА.

Гэта падземныя лёхі, каторыя йдуць пад зямлёю вельмі далёка ў кірунку Ерыхону.

Тут вельмі цікавая сьцяна муру, што акружае Старое Места. Ад зямлі ўздыймаецца прыродная скала, а на ёй пабудаваны мур. З-за муру бачныя сучасныя будынкі.

Ад Дамаскінскае брамы ў паўдзённым кірунку йдзе вуліца Наблюс. Калі пайсьці гэтаю вуліцаю, дык адыйшоўшы кавалек дарогі праваруч будзем мець —

БАЗЫЛІКУ СЬВ. СЬЦЯПАНА

першага мучаніка за нашу веру. Гэтаю Базылікаю апякуюцца а.а. Дамінікане, якія тут маюць Біблійную Школу.

Ёсьць ў Ерузаліме так званы

МУР ПЛАЧУ.



Гэта часьць муру, которым быў абведзены даўнейшы пляц, на якім стаяла жыдоўская сьвятыня, а цяпер на яе мейсцы стаяць мэчэты Омара і Эль Акса. Знайходзіцца ён у паўдзённа-заходняй часці гэнага пляцу з вонкавага боку.

Калі жыды ўтрацілі сваю палітычную самастойнасьць і калі была зруйнавана іхняя сьвятыня, ім было забаронена ўвайходзіць нават на пляц свае даўнейшае сьвятыні, тады яны пачалі зьбірацца вонках пад мурам, аплакваць сваю нядолю і маліцца. Ня толькі ў сьвяты, але і ў буднія дні тут можна было бачыць жыдоў, якія маліліся, або плакалі прысланіўшыся да муру. На пачатку сучаснае жыдоўска арабскае вайны, ў канцы травеня г.г. мур быў паважка пашкоджаны.

Недалёка ад Муру Плачу тут у жыдоўскім квартале Старога Места знайходзіцца галоўная жыдоўская бажніца з круглаю копулаю.

**Д. Анісько.**

(працяг буде).

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## АНГЛІЯ.

### Беларуская Дэлегацыя на Зьезьдзе « PAX ROMANA ».

Сёлета з ініцыятывы « Pax Romana » ў днёх ад 12 да 17 жніўня адбудзецца ў калегіі сьв. Элмунда каля Лёндану зьезд Інтэрнацыянальнага Руху Каталіцкае Інтэлігэнцыі, на які запрошана так-жа дэлегацыя ад беларусаў.

## АРГЭНТЫНА.

### Арганізацыйны рух.

Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне хоць памалу, але паступова разьвіваецца аб'ядноўваючы што раз новыя нацыянальныя беларускія сілы. Апошнім часам у Аргэнтыну прыехалі беларусы з Англіі й Італіі і гэтым збольшылі лік новае эміграцыі, а тым самым і актыў арганізацыі. Ужо мінула 5 месяцаў, як існуе арганізацыя, а толькі цяпер заўважваецца пачатак яе існаваньня. За гэты час тут зроблена ўжо даволі вялікая праца, кінена нацыянальнае зерне ў багатую Аргэнтынскую зямлю, якое можа прынесьці вялікі ўраджай. Перадусім Згуртаваньне вядзе здаровую прапаганду сярод старое эміграцыі, якая часта мае «чырвоныя погляды» дзякуючы ўзмоцненай працы савецкіх агентў, Нацыянальную прапаганду прыходзіцца весьці рознымі спосабамі, але найбольш даступны — гэта распаўсюджваньне беларускае нацыянальнае прэсы. Некаторыя з старых эмігрантаў толькі цяпер пачынаюць цяміць, што беларуская мова нічым ня ўступае мовам іншых дзяржаўных народаў і пачынаюць цікавіцца Згуртаваньнем Беларусаў у Аргэнтыне. Азнакаю гэтага ёсьць рэакцыя Камуністычнага Саюзу Славянаў, які ў сваёй прэсе пачынае атакаваць Згуртаваньне, асабліва пасьля прамовы старшыні З.Б.А. на украінскай Акадэміі у чэсьць паўшых гэрояў УПА.

З. Б. А. ужо вырабіла 20 дазволаў на ўезд у Аргэнтыну для беларускіх ДП з Эўропы, а цяпер высланы новы сьпісак у справе дазволу на цэлую сотню чалавек. Не малую помач зроблена беларусам у пошуках сваіх родных і знаёмых ува ўсёй Паўдзённай Амэрыцы.

Згуртаваньне навязала суседзкія адносіны з нацыянальнымі арганізацыямі іншых народаў, як: украінцаў, летувісаў, славакаў, харватаў. Яно належыць да Антыкамуністычнае Лігі Падняволеных Народаў Эўропы, дзе мае свайго сталага прадстаўніка.

Згуртаваньне ўдзячнае беларускім нацыянальным выдавецтвам у Эўропе за супрацоўніцва і за надсыланую прэсу.

**Управа З.Б.А.**

### Дэлегацыя на Акадэміі ў чэсьць гэрояў У.П.А.

Украінскае таварыства «Відродження» у Аргэнтыне ладзіла дня 11-7 г.г. урачысты дзень на памяць паўшых гэроў У.П.А. З гэтае нагоды Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне ў знак брацкае салідарнасьці выслала на гэтую урачыстасьць сваю дэлегацыю. Старшыня Дэлегацыі выступіў на Акадэміі з прынагаднай прамовай, якая знайшла цёплы водгук у украінскай прэсе.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Умовы жыцьця.

Аб умовах жыцьця і працы беларускае эміграцыі найлепш сьведчаць лісты самых-жа эмігрантаў. Вось вынятк з аднаго:

«Прабыўшы амаль два месяца ў пераходным лягэры, блізу ўся беларуская група працуе цяпер разам у лесе якіх 100 км. ад Брысбэну. Працуем 40 гадз. у тыдзень, суботы і нядзелі маем вольныя. За тыдзень працы атрымоўваем 6.5 фунтаў. Утрыманьне вельмі добрае і каштуе ўсяго 1 фунт на тыдзень. Вопратка крыху дарагаватая, але за два тыдні працы можна купіць зусім добры касьцюм. На карткі тут толькі масла і гарбата. Тымчасам жывём у палатках, але хутка пярэйдзем у баракі. Праца ня лёгкая, але і ня надта цяжкая.

Едучы сюды, мы затрымаліся адзін дзень у Брісбэне, там дазналіся, што ёсьць шмат расейцаў, эмігрантаў з першае сусьветнае вайны, аднак шмат з іх зьяўляюцца вельмі актыўнымі камуністамі.

Перашлеце хутчэй роднае друкаванае слова, бо гэтага ў нас нестае».

## БЭЛЬГІЯ.

### ПЯТЫ ЗЬЕЗД СББ.

Згодна з праграмаю дня 21-VII г.г. у Флямаль-Ліеж адбыўся Пяты зьезд Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. На Зьезьдзе ўдзельнічала 42 дэлегаты ад пяці адзьдзелаў Саюзу, прадстаўнікі бэльгійскага грамадзтва і госьці. Зьезд быў папярэджаны службаю Божаю, якую адправіў кс. Ф. Чарняўскі. Пасьля службы Божае адбылося спатканьне прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка. З прывітаньнямі выступалі прадстаўнікі СББ, Беларускага Сындыкату і ад Арганізацыі Беларускіх Вайсковых — усе выказвалі нязломную волю пад законным кіраўніцтвам усімі сіламі змагацца за ажыцьцяўленьне ідэалаў 25-III, не зважаючы на розныя правакацыі, як з боку БССР, так і збоку БЦР.



Папалудні Зьезд прадоўжваў сваю працу Старшыня СББ у абшырнай справаздачы пераказаў гісторыю беларускае эміграцыі ў Бэльгіі аж да мамэнту яе легалізацыі бэльгійскім Міністэрствам Юстыцыі дня 29-5-49. Далей Старшыня катэгарычна запярэчыў розным пагалоскам расьсяваным у пэўных асяродках у Нямеччыне аб нявыносьлівасьці эміграцыйных умоваў жыцьця ў Бэльгіі, падаючы зусім адваротныя факты. Наступна падаў агляд з усіх дзялянак беларускага арганізацыйнага жыцьця, як: Саюзу, Сындыкату, ІМКА, Вайсковых Спраў, Культурна-Асьветных, Рэлігійных, Сувязі, Нутраных і Вонкавых праводжаных да гэтага часу. Пасьля гэтага Старшыня падаў да дымісыі старую ўправу.

Зьезд аднагалосна выказаў падзяку дасюлешняй управе СББ, і свае задаволеньне адносна праводжанае дасюль палітычнае й ідэалягічнае лініі. Пасьля гэтага адбыліся выбары новае ўправы Гэнэральнае Рады СББ, у склад якоу ўвайшлі: настаўнік У. Рыжы-Рыскі — старшыня, інж. В. Ромар — заступнік старшыні, агран. Я. Лабоўка — сакратар, і сябры ўправы: М. Кумейша, М. Шуст, Д. Кажура.

Наступна адзін з удзельнікаў Зьезду высьветліў авантурнічую дзейнасьць сёньняшніх правадыроў прарасейскага зарубежжа на беларускім нацыянальным груньце і ў асаблівасьці БЦР назначанае СС гэнэралам фон Готбэргам. Пасьля выступленьня яшчэ некалькіх сяброў на гэтую тэму, Зьезд прыняў наступную рэзалюцыю:

1. Пяты Зьезд СББ выражае сваю адданасьць Дзяржаўнаму Кіраўніцтву Беларускае Народнае Рэспублікі на чале з прэзыдэнтам БНР, як праўным прадстаўніком беларускага дзяржаўнага сувэрэнітэту павераннаму яму Першым Усебеларускім Кангрэсам.

2. Пяты Зьезд СББ падтрымоўвае вонкавую палітыку Рады БНР выражаную яе рэзалюцыяй на пленум Рады БНР дня 21-4-48.

3. Пяты Зьезд СББ заклікае ўсе беларускія партыі да кансалідацыі ў рамах БНР, яе Рады і Ураду на чужыне пад кіраўніцтвам адзіна праўнага прэзыдэнта інж. М. Абрамчыка.

4. Пяты Зьезд СББ зьвяртаецца з упамінам да сп. Р. Астроўскага адыйсьці з поля палітычнае дзейнасьці, накіраванае на разьбіццьцё беларускае эміграцыі і гэтым выканаць свой абавязак перад беларускім народам.

5. Пяты Зьезд СББ падзяляе пастановы Рады БНР у справе нутранае палітыкі, выражанае рэзалюцыяю з дня 21-4-48.

6. Пяты Зьезд СББ заклікае ўсіх беларусаў, якія заманутьт ў рады зарубежніцтва, спыніць хлусьлівую прапаганду і правакацыйную дзейнасьць, накіраваную супроць беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва, Прэзыдэнта, Рады і Ураду БНР.

7. Пяты Зьезд СББ ня прызнае г. зв. Беларускага Цэнтральнага Эміграцыйнага Прадстаўніцтва за прадстаўніцтва ўсяе беларускае эміграцыі, бо яно «створана» толькі часткай беларускае эміграцыі ў Нямеччыне і ў ягю «тварэньні» ня брала ўдзелу беларуская эміграцыя з іншых краінаў, як: Англіі. Амэрыкі, Азіі, Аўстраліі, Афрыкі, Бэльгіі, Даніі, Італіі, Нарвэгіі і Швэцыі. Затое Зьезд падтрымоўвае прапанову «Хаўрусу» аб патрэбе стварэньня Сусьветнага Цэнтру Беларускае Эміграцыі які-б у паразумленьні з урадам БНР кіраваў жыцьцём беларускае эміграцыі на шляху барацьбы да вызваленьня Бацькаўшчыны.

8. Пяты Зьезд СББ схіляе головы для ўшанаваньня памяці змагароў, якія загінулі за незалежнасьць Радзімы і лучыць свае сэрцы з камандай БКА.

Пасьля прыняцьця рэзалюцыяў выступіў з кароткаю прамоваю кс. Чарняўскі, які сакавіта схарактэрызаваў шкоднасьць чужога — варожага сьвятарства для беларускага народу. Над гэтым пытаньнем была паднята дыскусыя ў выніку, якое быў паклікане да жыцьця Царкоўны камітэт з двух праваслаўных і аднаго каталіка, які мае заняцца рэалізацыяй беларускага душпастырства для праваслаўных і для католікаў беларусаў на абшары Бэльгіі.

Уканцы была праведзена складна ахвяраў на фонд беларускае прэсы.

Перад канцом удзельнікі Зьезду прынялі сьвятарскае багаславенства.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Палажэньне беларускіх студэнтаў.

У зьвязку з грашоваю рэформай у Нямеччыне палажэньне беларускіх студэнтаў стала вельмі крытычным. Стыпэндыяльны фонд, які да гэтага часу даваў магчымасьці студыяў цэлай сотні беларускіх студэнтаў, цяпер ня будзе выстарчаючым нават для некалькі чалавек. У гэтым становішчы Цэнтраля Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне зьвярнулася з заклікам да ўсіх установ і людзей добрае волі з просьбаю аб падтрыманьні.

Ацэньваючы вялікую ролю студэнцтва для сучаснасьці і для будучыні беларускага народу, з свайго боку падтрымоўваем гэтую просьбу і зьвяртаемся да беларусаў і спачуваючых беларусам зрабіць усё магчымае для падтрыманьня нашых студэнтаў у Нямеччыне.

Усякія ахвяры ў грашох і ў натуры просіцца высылаць на адрыс:

**Centre of Byelarussian Students Organisations in Foreign Countries, (16), Marburg am Lahn, Schwann Allee 32. Germany U.S.A. Zone.**

## ФРАНЦЫЯ.

### Паломніцтва ў Люрд.

Сёлета з пачыну яшчэ даволі маладое арганізацыі «Pax Christi» у днёх 25-29 чэрвеня адбылося міжнароднае паломніцтва ў Люрд. У паломніцтве прыймала ўдзел больш 10.000 прадстаўнікоў ад 26 народаў, між якімі была дэлегацыя і ад беларусаў.

Мэтай паломніцтва было вымаліць у Найсьвяцейшае Дзевы з Люрду той справядлівы мір, якога так прагна шукае сучасны сьвет, і адначасна паказаць усяму сьвету, што гэткі мір бяз Бога неасягальны. Прыязная атмасфэра, якая адчувалася на кожнай урачыстасьці, на кожнай зборцы, і зьмястоўныя рэфэрты — вымоўна сьведчылі аб паводзінах паломніцтва.

Для нас, беларусаў, радасным ёсьць факт, што ў гэтай вялікай сям'і народаў маем так-жа сваё бясспрэчнае мейсца.

### Другі нумар «Моладзі».

Вышаў другі нумар часапісу «Моладзь» за месяц жнівень прысьвячаны памяці Івана Луцкевіча і актуальным грамадзкім пытаньням беларускае эміграцыі.

### Новыя Сэкцыі Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі (А.Б.Р.Ф.).

У мінулам месяцы г.г. паўсталі новыя сэкцыі А.Б.Р.Ф. у Ліоне і Ціонвіль. Адрыс Ліонскае сэкцыі будзе паданы ў найбліжэйшым часе, а Ціонвільская сэкцыя тымчасам месьціцца ў памешканьні аднаго з яе сябраў. У зьвязку з гэтым просіцца ўсіх беларусаў з дэпартамэнту Мозель і суседніх зьвяртацца ў справе Аб'еднаньня Б.Р.Ф. на адрыс:
**Mr. Survillo Jean, 79, Route de Metz, Thionville (Moselle).**

### ЗВАРОТ ДА ЧЫТАЧОЎ.

Да гэтага часу адзіным беларускім друкаваным рэлігійным часапісам на эміграцыі ёсьць наш часапіс «Божым шляхам». Радакцыя дакладае ўсіх стараньняў, каб па магчымасьці здаволіць сваіх чытачоў не зважаючы на розьніцы веравызнаваньня і дзеля гэтага часапіс расходзіцца ў вялікай колькосьці ўва ўсіх тых краінах дзе знайходзіцца беларуская эміграцыя. Аднак на вялікі жаль дзеля паштовых і дэвізовых абмежаваньняў з-за межаў Францыі амаль немагчыма атрымаць падпісную плату. З гэтага вынікла, што сёньня адміністрацыя часапісу знайшлася ў цяжкім матэрыяльным становішчы і таму зьвяртаецца да ўсіх чытачоў з просьбаю аб падтрыманьні. Усіх людзей добрае волі просім: памажэце нам утрымаць наш адзіны рэлігійны беларускі часапіс на эміграцыі сваімі ахвярамі.

У Францыі найлепш высылаць ахвяры паштовым чэкам на адрыс:
**Paris CC 628744, R.P. Horosco Leo, 95, R. de Sèvres, Paris (VI),**
дзеля гэтага выпаўняецца шэрую блянку **Mandat-Cart de versement,**
якую можна дастаць у кожнай паштовай агэнцыі.

У Англіі можна перасылаць грошы на імя а. др. Сіповіча:
**Rev. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, London, N. 12.**

У Нямеччыне ўсе ахвяры можна перасылаць на імя а. Маскаліка. М.
**M. Hochw. Dechant Michael Moskalik, (20b) Goslar - Harz, Sommerwohlen str. 1. A. Germany. Brit. Zone.**

**Радакцыя «Божым Шляхам».**

### ПОШУКІ.

**Скочко** Міхася і **Аркадзія** Богдана шукае Крывеня Марыя. Пісаць на адрыс:
**Weissruthenischer Caritasdienst, (20 b) Goslar-Harz, Sommerwohlen str. I. A. Germany, Brit. Zone.**

**Вабішэвіча** Паўла, або ягоных бацькоў шукае брат Даніла з в. Рубель, Пінскае акр. Палесьсе. Пісаць на адрыс:
**Mr. Wabiszczewicz D., S.F.P.P. Co Camp Opasatika, Ont. Canada.**

Мужа **Шчэпку** Васіля шукае жонка Паўліна. Мужа **Пракаповіча** Уладзімера шукае жонка Яніна. Бацьку **Шурака** Васіля шукае сын Лявон. Хто ведаў-бы што небудзь аб іх долі ветліва просіцца паведаміць на адрыс:
**Lavon Surak, (20 b) Immendorf b. Braunschweig, Weissruthenisches DP Lager «ABC;, Germany, Brit. Zone.**

**Грыцука** Мікалая с. Піліпа нар. 15-8-25, які падчас вайны быў вывезены ў Нямеччыну, Гокэнгайм-Бадэн шукае маці Барбара і браты Павел і Шура. Хто знае аб яго долі просім пісаць на адрыс:
**Guz Paul, Kufstein, D. P. Lager Osterreich.**

### ЗЬМЕСТ:



Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.
Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.